# МАТАР'ЯЛЫ ДЛЯ ТРАСЯНКА-БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА

абавязацельства--абавя́зак
абслугоўваючы--абслуговы
адаптіраваць--адаптава́ць
адзіноцтва--адзінота
адстаючы--адста́лы
ажаніцца на кім?--ажаніцца з кім?
алея--прыса́ды
асенні--восеньскі
афіцыяльны--афіцы́йны
балельшчык--заўзя́тар
барэц--барацьбі́т
Брэст--Бе́расьце
варатар--бра́мнік
Вільнюс--Вільня
вуглавы--кутні
вышэйстаячы--вышэйшы, кіраўнічы
вясенні--веснавы́, вясновы
вячэрні--вечаровы /вечар/, вячэрні /вячэра/
Гродна--Горадня
давер'е--даве́р
ёлка--ёлка, яліна
жадаючы--ахвотны
завяшчанне--запаве́т, та́стамант
загінуўшы-- пале́глы
зачастую--часьцяком
здрадніцтва--здра́да
землетрасенне--землятру́с
зімні--зімовы
змяненне--зьме́на
іменна--менаві́та
каляска--вазок
капля--кропля
карандаш--аловак
Каўнас--Коўна
кафэ--кавя́рня
клёнка--цыра́та
лятучая мыш--кажа́н
магазін--кра́ма, кніжны--кнігарня
меткі--тра́пны
Мінск--Менск
мінута--хвіліна
на даму--дома
Навагрудак--Нава́градак
наведвальнік--наве́днік
нападаючы--напа́днік
напітак--напой
нованароджаны--навародак
новаўвядзенне--навіна́, наві́нка
ноўшаства--навіна, навінка
па адрасу--на адрас
палавіна--палова
памёршы--паме́рлы, нябожчык
пасуда--посуд
паявіцца--зьявіцца
пісьмо--ліст
поезд--цягнік
прадаставіць--даць
прадстаіць--трэба будзе
прайшоўшы--мінулы
прамавугольнік--прастаку́тнік
прапанаванне--прапанова
прапануемы--прапанава́ны
праяўленне--прая́ва
прафесіянальны--прафэсы́йны
прымета--прыкме́та
пуць--каля́іна
пяшком--пехатою, пе́шкі
пяцчотнасць--пяшчота
рабяты- дзеці, юнакі, моладзь, дзяўчаты і хлопцы, школьнікі, вучні, дзятва, хлопчыкі і дзяўчаткі...
размер--памер
расшыраць--пашыра́ць
раўнадушнасць--абыякавасць
раўнадушна--абыякавасць
рашаючы--вырашальны
рызіна--гума
рэзультат--вы́нік
савет--ра́да
саіскальнік--спаборнік
сачыненне--твор
скорасць--хуткасьць
скоры--хуткі
спаборнічаючы--спаборнік
тамада--марша́лак
трохвугольнік--трохкутнік
уехаць--паехаць, ад'ехаць, зьехаць
уйсці--пайсьці, адысьці, сысьці
уляцець--паляцець, адляцець, зьляцець
уноў--зноў
уплаўне--ца́лкам, усі́м
упраўленне--упра́ва, кіраўніцтва
упраўляючы--кіраўнік
упушчэнне--памылка, хіба, загана
урач--ле́кар, доктар
урон--стра́та, шкода
фрукты--садаві́на
хварэць чым?--хварэць на што?
ход--хада́; у ходзе--у часе
цыркуляр--абе́жнік
чай--гарба́та
чайнік--імбрык
чамадан--валі́за, валізка
чатырохвугольнік--чатырохку́тнік
шагнуць--сягну́ць
штрафны--ка́рны
экземпляр--асобнік
яйцо--яйка

---

"Маральнае права гарманізаваць і нармаваць мову мае толькі той, хто на ёй гаворыць, думае і адчувае!"

А.Сай

## НОВЫ ВАРЫЯНТ СТАРОЙ НАВУКІ АЛЬБО ЧАМУ Я СПЫНЮСЯ ПЕРАД УВАХОДАМ ЗА УНІВЕРСЫТЭТ.

... Пра яе марылі доўга і амаль безнадзейна. Яе выношвалі і нараджалі ў пакутах. І таму, калі яна ўсё ж зьявілася, мая **ALMA MATER**, ёй далі гучнае і прыгожае імя – Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, што пад той час разумелася як Унівэрсытэт Беларускай Дзяржавы. Ішоў час, зьніклі зь зямлі яе бацькі, многія словы згубілі сапраўдны і набылі іншы сэнс. І ўсё часьцей пачалі называць яе па-сяброўску караценька – БДУ, а калі і ўзгадвалі яе сапраўднае імя, то толькі для ўдакладненьня геаграфічных межаў нараджэньня і жыхарства...

Сумная навука і павучальная. Чаму я распавяла пра гэта сёньня, калі зь вялікім рыпеньнем, але ж пайшла другая беларусізацыя культурнага жыцьця рэспублікі? Не, не з жаданьня падзякаваць за чарговую"рэвалюцыю зьверху". З жаданьня мець аснову для развагаў. Няма нічога дзіўнаг , што Беларускі Унівэрсытэ паводле шыльды не зьяўляецца беларускім па сутнасьці, як і любая іншая ВНУ на Беларусі. Просты прыклад. Словы "Беларусь павінна быць сувэрэннай дзяржавай" сустракаюць усё болей і болей прыхільнікаў. Словы ж "Беларусь ёсьць сувэрэнная дзяржава" сустракаюць толькі усьмешку. Але апошняя сэнтэнцыя запісаная ў Канстытуцыі БССР! Пасьля выпустошваньня сэнсу з гэтых асноўных паняцьцяў мы больш не заўважалі адсутнасьці сэнсу ў іншых. Мне могуць запярэчыць: маўляў, час зьмяніўся. Зьмяніўся? А мо толькі пачынае мяняцца? А мо гэта і ня зьмены наогул, а так, касмэтычны рамонт? Для доказу вернемся да стану беларушчыны ва унівэрсытэце.

Ня буду кранаць вонкавы выгляд: усё адно, акрамя шыльды пры ўваходзе і шыльдаў з нумарамі паверхаў, беларускіх надпісаў няма. Галоўней тое што няма адчувальных зьменаў у жыцьці факультэтаў. Праграма беларусізацыі, распрацаваная рэктаратам, парткамам і камітэтам камсамолу, аніяк не дасць карэннага пераўтварэньня навучаньня. Беларуская мова – у якасьці экзотыкі: перавядзеньне на яе некалькі дысцыплінаў, прычым толькі тых, якія датычацца непасрэдна беларускае мовы альбо гісторыі. Каб пасьпяхова здаць уступныя іспыты, таксама зусім неабавязкова ведаць беларускую мову і гэтак далей. Але я не зьбіраюся разглядаць хібы праграмы, у якой яе стваральнікі, шчыра кажучы, не вінаватыя. Яна і не магла быць іншая, створаная паводле макету сваіх папярэдніц, якія пасьпяхова не выконваліся. Для сапраўднай беларусізацыі адукацыйнае справы патрэбная ломка ўсяе сыстэмы навучаньня, першымі крокамі якой павінны стаць аўтаномія вышэйшых навучальных установаў і зьмены правілаў прыёму студэнтаў. Ня кажучы пра значна большыя магчымасьці дзеля разумнай арганізацыі навучальнага працэсу і непазьбежныя пры гэтым зьмены дзяржпланавага разьмеркаваньня студэнтаў, якія прынясе заключэньне непасрэдных умоваў з прадпрыемствамі і установамі. Гэта дало б магчымасьць комплексна вырашыць усе праблемы пераходу унівэрсытэту на беларускую мову навучаньня і яго ўдзелу ў працэсе беларусізацыі грамадзтва. Прыкладам, унівэрсытэт мае магчымасьць хутка рэагаваць на зьмены кан'юнктуры на рынку працы, павялічваючы альбо зьмяншаючы выпуск студэнтаў. Унівэрсытэтцкае кіраўніцтва павінна было б павялічыць прыём студэнтаў на беларускае адзьдзяленьне філфаку, зьнізіўшы пры гэтым набор на расейскае. Але на самой справе зноў набор на расейскае больш. Я думаю, хутчэй вырашылася б і праблема са спэцнакіраванымі студэнтамі з азіяцкіх і закаўкаскіх рэспублікаў, а таксама з замежнымі студэнтамі, якія на маім факультэце, напрыклад /я вучуся на гістфаку/, набываюць спэцыяльнасьць каго хочаш, толькі ня знаўцы гісторыі, эканомікі, этнаграфіі Беларусі. Я думаю, хутчэй бы вырашылася праблема вайсковай падрыхтоўкі, якую баяцца ўзьняць таму, што так ужо заведзена, і уся недарэчнасьць выкладаньня якой адразу была б усьвядомленая пры іншай арганізацыі нашай прафэсыйнай падрыхтоўкі. І шмат якіх іншых праблемаў.

Які ж удзел можа браць студэнцтва ў беларусізацыі сваіх навучальных установаў? Гэта залежыць ад ступені нашае згуртаванасьці. Паасобку ... амаль нічога не магчыма – нас проста ня будуць успрымаць усур'ёз альбо зробяць выканаўцамі чужых ідэяў. Патрэбны Студэнцкі Саюз, які б не засяроджваўся на спэцыфічна студэнцкіх справах, а суадносіў бы іх са справамі руху ўсяе беларускай моладзі. Таму – Беларускі Студэнцкі Саюз.

Яго першымі клопатамі маглі б зрабіцца арганізацыя руху супраць вайсковага навучаньня ў БНУ, а таксама ўдзел у стварэньні слоўнікаў прафэсійнае тэрміналёгіі як крок да пераводу спэцыяльных прадметаў на беларускую мову.

...Я спыняюся перад прыступкамі Ўнівэрсытэту. Чытаю лёзунг: "Сардэчна запрашаем у Белдзяржунівэрсытэт!" І мару пра той час, калі мы з гонарам будзем вымаўляць яго назву - цалкам, нескарочаную - Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, альбо: унівэрсытэт Беларускай Дзяржавы.

Аладзьева Натальля
Гістфак, П курс. БДУ.

# З НАШАЕ ПОШТЫ

Добры дзень, рэдакцыя "Студэнцкае Думкі"!

Зараз я жыхар места Луцка, што на Украіне, хаця нарадзіўся й жыў на беларускім Палесьсі ў Пінску. Адразу прашу прабачэньня, калі у маім лісьце знойдзеце памылкі. Я ўсё ж такі першы ліст у жыцьці пішу па-беларуску. Потым Вы мне пра ўсе памылкі ды недакладнасьці, калі ласка, напішэце ў сваім лісьце.

Нядаўна мой сябра зь Менску даслаў мне стос самвыдавецкай літаратуры. Знаёміў зь ёй сваіх знаёмых. Скажу шчыра, асаблівай цікавасьці яна ў іх ня выклікала, апрача некаторай усьцешнасьці ў тым сэнсе, што "ага, и у нас наконец-то что-то начинается". З усіх дасланых брашураў мне найбольш падабаецца "Сьвітанак". Ён самы паэтычны, самы патрыятычны і самы цікавы. Зь вялікай цікавасьцю чытаў вершы Алега Бембеля / псэўданім Зьніч /. Ня ведаю, чаму б самвыдаву не выпусьціць кніжачку ягоных вершаў. Калі гэта ня робіць Саюз пісьменьнікаў, то гэта павінны зрабіць мы. Пад яго ўплывам я й сам неспадзявана стаў пісаць вершы на беларускай мове. Дасылаю Вам сваю першую літаратурна-мастацкую старонку. Не судзіце мае вершы занадта строга. Я проста дзялюся імі з Вамі.

Да пабачэньня,

Санчук Уладзімер. м.Луцк

Ад рэдакцыі: Дасланая зь лістом літаратурна-мастацкая бачынка — сапраўды на яе выглядае. Нажаль, мы ня можам зьмясьціць яе факсіміле /з малюнкамі/ на нашых бачынах, таму сьцісла перакажам намаляванае і падамо ніжэй тэкст зь яе. Бачым на ёй спрадвечную сымболіку беларускага народу: бел-чырвона-белы штандар, гэрб з выявай "Пагоні", шасьцікантовы крыж Ярылы, а таксама малюнак зямлі Турава-Пінскай з магутнай постацьцю зубра і гэрб места Пінску. "Гэта мая першая літаратурна-мастацкая бачынка. Я вырашыў падпісацца псэўданімам "Дрыговіч", таму што нарадзіўся і жыву на зямлі гэтага старажытнага славянскага племя і на ваг у сталіцы яе былога княства Турава-Пінскага.

x x x

Вой на кані з узьнятым мячом
Белы ў чырвоным полі.
Гэта сымболь усіх змагароў
За нашу й вашу волю!

Уладзімер Дрыговіч
Луцк, красавік 1989

Як вядома, Пагоняй у старажытныя часы называлі збор вояў у часе небясьпекі для Радзімы. Зараз на Беларусі вельмі небясьпечнае становішча з мовай, культурай, гісторыяй, нацыянальнай сьвядомасьцю беларусаў. Таму, на мой погляд, сымболь Пагоні як ніколі актуальны.

x x x

Зноў маці-Айчына склікае сыноў!
На белым, як Русь мая, сьцягу
Адбілася чырванью кроў Крывічоў,
Радзімічаў, Лотвы, Дрыгавічоў,
Літвы, Латыголы, Яцьвягаў.

Усіх, хто калісьці жыцьцё аддалі
За родны свой край, за свабоду,
Зьлілісь плямёны ў вялікай сям'і
І сталі адзіным народам.

Народам магутным, са шчырай душой,
Зь пявучаю чыстаю мовай.

На веча зьбірайцеся ўсе грамадой,
Каб высьветліць лёс Беларусі сваёй
Пад нашай спрадвечнай Пагоняй!

Казімір ДРОНГ

## СУАЙЧЫННІЧКУ

70-ым угодкам БНР прысьвячаю...

-Тату, тату, лезе чорт у хату!
-Дарма, сынку, абы не маскаль!

З народнага

Маскаль як торгне за ляйчыну,
Закрыеш палахліва рот,
Забудзеш мову і Айчыну –
Які ты к д'ябалу народ?!

Цямы і ў лепьнікі забраны,
Сьвятыя збэсьціўшы правы,
Ты вернеш нос ад Вострай Брамы,
Бо так загадана з Масквы.

На ўсё ў цябе любоў і згода –
Маскаль ці лях, ці чорт, ці бог,
Залезшы ў кайстру да народа,
Ты аплываў усё, што мог.

Прадаў чужынцу хлеб і мову –
"Он ведзь галодны і нагі!"
Прадаў он лепей бот гумовы,
З уласнай скінуўшы нагі...

І голас твой, да фальшу падкі,
Сабе ж псалёмчыкі пяе...
Ды плюнуць некалі нашчадкі
На трыццаць срэбнікаў твае!

## ГОЛАС НАРОДУ У ТУТЭЙШАЙ "ГАЛОСНАСЬЦІ".

Сакалоў спусьціў указ:
"Скажа хай рабочы клас:
— Сакалову — давяраць,
Фронт народны — не пушчаць!"

Апаратныя "шасьцёркі" —
за пасады, грошы, зоркі, —
як бывала ўжо ня раз,
шлюць у Цэнтар "голас масс":

"Мы, рабочыя й сяляне,
адшчапенцаў адхіляем!
Наш народ заўжды гатоў
Йсьці — як скажа Сакалоў!"

Метадалёгію Вандэеўскае
прапаганды зарыфмаваў
Вядзьмак МЕНСКІ

Добры дзень!

Зьвяртаюся да Вінцука Вячоркі. Вялікі дзякуй Вам за артыкул "Характарыстыка моўнае рэформы 1933г.", які быў зьмешчаны ў "Студэнцкай Думцы" №5, сакавік, 1989г. Справа ў тым, што апошнія год дзесяць я ўсё часьцей імкнуся размаўляць па-беларуску. Мне 51 год. У 46-ым годзе мае бацькі пераехалі ў Бабруйск, я скончыў рускую дзесяцігодку, тэхнікум, інстытут у Маскве. Дык вось, не прымала мая душа нашую літаратурную мову. Мне цяпер сорамна, што я сам не здагадаўся пра гэтае зьмякчэньне зычных, будзь яно няладна! У школе ж некалі мяне муштравалі, што я вельмі кепска чытаю па-беларуску, трэба чытаць, як пішацца. Вось і скончыў я школу: руская й беларуская мова ды геаграфія — "пасрэдна", а астатнія прадметы — "выдатна". У Маскве прыйшлося ўсьвядоміць, што маё рускае вымаўленьне нікуды ня вартае. Прачытаў Ваш артыкул і ўсё стала на свае мейсца. Я атрымаў у спадчыну ня толькі добрае здароўе, але й выдатную, цудоўную мову на якой гаварыць і чытаць вялікая асалода...

Шчыра зычлівы
Эдвард Харанека. м.Бабруйск

# АБ'ЯВЫ, АБВЕСТКІ

**Зьніч**

памірае Зямелька, сьмяротна хворая ...
памірае мой Род пад цяжарам нянавісьці ...
што мы возьмем да Бога — зь зямной гісторыі ?..
што ня сорамна ўспомніць — прад Боскаю Памяцьцю ?

**ХРЫСЬЦЕ,**

што я думаю

пра Цябе ?..

Кнігу пад такой назвай я зараз складаю. Структура гэтага калектыўнага твору адпаведная кнізе РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС: асноўную частку складаюць Вашыя думкі, шаноўныя чытачы. Чакаю іх на адрас: Беларусь, 220013, Менск-13, вул.Якуба Коласа, 29-а, Бембелю Алегу Андрэевічу.

Штуршок для Вашага роздуму — акрамя назвы кнігі, хай дасьць наступнае сямірадкоўе.

Родзе мой грэшны, я чую твой шал пахавальны,
з плачам Зямелькі, спустошанай намі, спалучаны ...
я вінаваты, што мы ў гэты міг разьвітальны
ладзім ня з Богам, ладзім зь нячыстым заручыны ...
я вінаваты, што голас мой не адчувальны,
не ачышчальны, банальны і зычаны ...
Госпадзе, дай мне Твой Дух Ратавальны!..

## Шчыра дзякуем!

Рэдакцыя ўдзячная за фінансавую падтрымку нашага выданьня і шчыра дзякуе ахвяравальнікам:
спадарыні Галіне Тычцы, супрацоўніцы газэты "Літаратура й мастацтва";
спадару Уладзімеру Гуркову, навуковаму супрацоўніку інстытута этнаграфіі ды фальклёру АН Беларусі;
спадару Міхасю Казлоўскаму, работніку маладэчанскага завода "Спадарожнік";
спадару Вадзіму Гурыновічу;
спадару Віктару Здановічу й ягоным сябрам, студэнтам Тартаўскага/Эстонія/ унівэрсытэту.

* * *

— Паважаныя таварышы !
Дарагія сябры !
Вы слухаеце радыёперадачу "Беларускае слова на хвалях Літвы".

Так, 25 сакавіка 1989 года /сымбалічная дата: як вядома, 25 сакавіка ў 1918 годзе Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчаная незалежнай і вольнай дзяржавай — Рэд./, па другой праграме Літоўскага радыё пачаўся першы выпуск беларускай радыёперадачы ў Літве.

Ніжэй падаем працяг маленькага інтэрвію, якое "Студэнцкая Думка" ўзяла ў адказнага за справы радыё і тэлебачаньня на беларускай мове ў Літве, сябра рады таварыства "Сябрына" Валянціна Стэха.

"С.Д.": Шаноўны спадар Валянцін, колькі словаў пра тэматы Вашых перадачаў?

— Асноўнымі рубрыкамі гэтых радыёперадачаў сталі:
- з нашае спадчыны - старонкі гісторыі;
- актуальныя пытаньні беларускага культурнага жыцьця ў Літве;
- нашая хроніка;
- запрашае "Сябрына" /альбо Таварыства беларускае культуры ў Літве/.

"С.Д.": Пане Валянціне, шмат хто з нашых чытачоў пытаецца, на якіх хвалях і калі можна пачуць Вашыя перадачы ?

— Перадачы выходзяць у эфір што другую суботу аб II гадзіне 30 хвілінаў. Слухайце нас 10 і 24 чэрвеня, 8 і 22 ліпеня, 5 і 19 жніўня, 2,16 і 30 верасьня, 14 і 28 кастрычніка, II і 25 лістапада ды 9 і 23 сьнежня гэтага году на хвалі 271 мэтар.

Спадзяемся, што ў будучыні мы зможам выходзіць у эфір як мінімум штотыдзень, а не, дык і два разы на тыдзень: па суботах ды нядзелях. Разьсачынь за нашай рэклямай.

"С.Д.": Дзякуй, шаноўны пане Валянціне. Посьпехаў Вам!

## УВАГА! УВАГА! УВАГА!

У жніўні 1989 года ў Мірскім замку будзе працаваць будаўнічая суполка імя Пічэты з БДУ. Суполкі, якія працуюць на рэстаўрацыі, археалягічна-досьледных раскопках беларускіх помнікаў,— надзвычай патрэбныя ў справе аграджэньня нашае спадчыны, даюць яны вялікі эфэкт справе выхаваньня нацыянальнае сьвядомасьці. Хто хоча пазнаёміцца зь дзейнасьцю нашае суполкі і налета зрабіць гэткую ж самую ў сябе - калі ласка - запрашаем у госьці. Для даведак просім зьвяртацца па тэлефоне 596-612 - хатні/Сугойдзь Вадзім/.

Камандзёр суполкі Сугойдзь Вадзім.

# Ці застанецца Беласточчына беларускай?

Лёс беларусаў на Беласточчыне/Польшча/ моцна хвалюе найбольш сьведамую частку беларускага грамадзтва. Спыніць працэс палянізацыі — гэта нашая агульная задача. І справа тутака ня ў крыўдзе са страты спракаветнай этнічнай тэрыторыі беларусаў, бо, да прыкладу, у цывілізаваным эўрапэйскім грамадзтве зь ягонымі культурнымі нацыямі фактычна неўзабаве мусяць зьнікнуць дзяржаўныя межы. Хаця і на гэта ня трэба зусім забывацца, асабліва сёньня, бо былі б беларусы "культурным" народам, дык асыміляцыі можна было б не баяцца. Нажаль, мы пакуль што толькі вучымся быць культурнай нацыяй.

Палянізацыя Беласточчыны — гэта найперш вялізная культурная страта. Кавалак Беларусі ў Польшчы ёсьць шлях да агульнаплённага сумоўя культураў. Страчваючы гэты лапік, мы страчваем шчыльны, непасрэдны ўзаемакантакт і ўзаемаабмен з польскай культурай. Таму заклікаем усіх, у тым ліку і палякаў, падтрымліваць беларускі рух у Польшчы, а найперш дапамагчы будаўніцтву ў Гайнаўцы Музэя беларускае культуры і ахвяраваць колькі беларускіх кніжак для студэнтаў Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім.

Вынятка выразаная з рэспубліканскай газэты "Зьвязда".

Навіны культуры

## Беларускі музей у Гайнаўцы

**Беларускае таварыства «Радзіма» выступіла ініцыятарам збору добраахвотных ахвяраванняў у фонд будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы (ПНР).**

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы будуе ў Гайнаўцы, на Беласточчыне, Музей беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху, або проста — Беларускі музей. БГКТ пачало ўжо збор экспанатаў і дакументаў для музея, першая невялікая экспазіцыя якога павінна адкрыцца сёлетняй восенню. Справа гэта датычыць не толькі беларускай меншасці ў ПНР, але і ўсіх нас, дзе б мы ні жылі, бо музей можа стаць не толькі рэгіянальным, а і агульнанацыянальным цэнтрам гісторыі і культуры.

У фонд дапамогі будаўніцтву музея ўжо даўно ідуць ахвяраванні адусюль, дзе ёсць беларусы. Значны ўклад зрабілі нашы замежныя суайчыннікі з Канады, ЗША, Аўстраліі, краін Еўропы. Асобныя ўзносы паступаюць на адрас галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку і з нашай рэспублікі. Але дагэтуль яны былі выпадковымі і разрозненымі.

Цяпер уся грашовая дапамога з Беларусі, спадзяёмся, будзе канцэнтравацца на рахунку № 141713 у рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска. Ахвяраванні могуць пералічваць як прадпрыемствы, арганізацыі, установы, так і асобныя грамадзяне — кожны, хто хоча зрабіць патрыятычны ўчынак і дапамагчы беларусам у Польшчы здзейсніць іх вялікую задуму.

Сродкі з гэтага рахунку Беларускае таварыства «Радзіма» перадасць грамадскаму камітэту ўзвядзення Беларускага музея ў Гайнаўцы.

**М. ВАСІЛЁНАК,**
**першы намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма».**



Нагадваем, што збор кніжак будзе доўжыцца да канца лета. Просім дасылаць іх ці перадаваць на адрас рэдакцыі. Падаем таксама менскі тэлефон Юрася Траяновіча /61-15-89/, зь якім можна дамовіцца пра сустрэчу дый непасрэдна перадаць кнігі.

Выказваем шчыры дзякуй нашым чарговым ахвяравальнікам:
спадарам Рычыку Васілю й Чыруну Сяржуку, інжынэрам Цэнтральнай наладачнай управы "Прамсувязьэнэрганаладка";
супрацоўнікам музэя імя Максіма Багдановіча.

## Мартыралёг Беларусі

Шмат хто з нашых шаноўных чытачоў зьвяртаецца да нас з пытаньнем: "Ці можна якім чынам уступіць у Беларускае грамадзкае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралёг Беларусі" ?" Паведамляем, што адным з заснавальнікаў гэтага таварыства зьяўляецца газэта "Лі-

таратура й мастацтва", таму пісьмовыя заявы можна кіраваць непасрэдна на "ЛіМ", зразумела, пазначаючы: "Мартыралёг Беларусі". Для тых, хто ня ведае, падаем адрас газэты: Беларусь, 220600, ГСП, Менск, вул. Захарава,19, "Мартыралёг Беларусі".
Ніжэй падаем узор заявы:

Грамадзкай радзе Беларускага грамадзкага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралёг Беларусі"

Я, ________________________________________________,
/прозьвішча, імя, імя па бацьку/
прашу прыняць мяне ў сябры Таварыства памяці ахвяраў сталінізму. Прызнаю мэты таварыства, яго статут і праграму дзейнасьці.
Хатні адрас ________________________________________,
Тэлефон ______________, Час нараджэньня ______________,
Нацыянальнасьць ______________, Адукацыя ______________,
прафэсія ______________, Мейсца працы ______________,
Матывы уступленьня ў Таварыства памяці ахвяраў сталінізму: ______________

________________________________________________
дата                                                                                подпіс

Пастанова Грамадзкае рады:

________________________________________________

М.П.                                        Старшыня рады ______________

"Студэнцкая Думка" прапануе "Мартыралёгу Беларусі" наступныя

## даты жальбы і смутку 1989 года:

150 гадоў таму /1839/ — скасаваньне уніі на Беларусі й забарона казаньяў па-беларуску ў сьвятынях. Гэтак пачынаўся доўгі працэс гвалтоўнага "адвучваньня" беларусаў ад іхняй рэлігіі, мовы, культуры, нацыянальнае самасьвядомасьці. Праваслаўнае духавенства зьнішчыла многія тысячы беларускіх уніяцкіх кніг, атрыбутаў культу, твораў мастацтва, помнікаў архітэктуры...

125 гадоў таму /22.III.1864/ - у Вільні страчаны сьмерцю Кастусь Каліноўскі.

75 гадоў таму /19.VII.1914/ — пачалася I-ая сусьветная вайна. Паводле БелСЭ /т.12,с.55/, "У час I-ай сусьв. вайны, грамадз. вайны і ваеннай інтэрвэнцыі насельніцтва Беларусі страціла 1376 тыс.чал., у т.л. 107т.чал. эміґравала за мяжу і 246т.чал. уцекачоў і эвакуяваных не вярнулася дамоў зь іншых раёнаў краіны".

---

УВАГА !!!

Рэдакцыйная суполка зьвяртаецца да шаноўных чытачоў нашае часапісі са шчырай просьбаю дасылаць матэрыялы характару культурна-грамадзкага, палітычнага, эканамічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, гумарыстычнага, сатырычнага, абвесткі.

Наш адрас: Беларусь, 220100, места Менск, вул. М.Горкага, д. 143, кв. 65, Гуркову Алесю. Тэл. 34-42-78 - хатні.

Нумар падрыхтавалі: Гуркоў Алесь, Аніськова Галіна, Селядцоў Уладзя, Сотнікаў Сяржук, Сабаленка Алесь ды іншыя.

Апрацоўка нумара закончана напачатку чэрвеня 1989 г. Перадрук дазваляецца толькі са спасылкай на крыніцу. Нумар падрыхтаваны ў двух асобніках, просьба да ўсіх сяброў нашае часапісі, якія будуць практыкаваць масавае памнажэньне выданьня, трымацца апошняга Ўказу Прэзыдыўма Вярхоўнае Рады Беларусі, г.з. паведамляць, дзе друкуецца, якім накладам, на якой паперы і г.д.